ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ДА ПЫТАННЯ АБ ЗНАЧЭННІ ТЭРМІНАЎ “ПУСТОВЪЩИНА”, “ЗЕМЛЯ ПУСТОВСКАЯ” Ў АКТАВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў КАНЦЫ XV – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVI СТАГОДДЗЯЎ

УЛАДЗІМІР ФЁДАРАЎ

***Анатацыя:*** Артыкул прысвечаны разгляду значэнняў тэрміна “пустовъщина”/“земля пустовская” ў актавай тэрміналогіі Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XV – першай палове XVI стагоддзяў.

***Ключавыя словы:*** крыніцы, актавая тэрміналогія ВКЛ, аграрная гісторыя, сельская гаспадарка, дэмаграфія.

# ADDRESSING THE MEANING OF “PUSTOVSCHINA”, “ZEMLYA PUSTOVSKAYA” TERMS IN THE REGISTER TERMINOLOGY OF THE GRAND DUCHY OF LITHUANIA IN THE LATE 15TH – EARLY 16TH CENTURIES

***Abstract:*** The article discusses the meanings of “pustovschina”/“zemlya pustovskaya” terms in the terminology of the Grand Duchy of Lithuania in the late 15th – early 16th centuries.

***Keywords:*** Sources, GDL Register Terminology, Rural History, Register Formulas, Agriculture, Demography.

Як вядома, пераважная частка звестак, што непасрэдна закранаюць пытанні сацыяльна-эканамічнай гісторыі ВКЛ на памежжы позняга Сярэдневечча і ранняга Новага часу, утрымліваецца ў актавых крыніцах. Інтэрпрэтацыя дадзеных апошніх немагчыма без ведання спецыфічнай тэрміналогіі, якая там ужываецца. Нягледзячы на багатую традыцыю даследавання крыніцазнаўчай і гаспадарчай праблематыкі гісторыі ВКЛ канца XV – першай паловы XVI стагоддзяў, засталіся моманты, якія патрабуюць удакладнення.

Адным з іх ёсць пытанне аб значэнні тэрмінаў “пустовщина” альбо “земля пустовская” (“земля пустая”, “землица пустовская”, у аналагічных дакументах на лаціне – “solitudinis”, “terra deserta”), якія шырока выкарыстоўваліся ў справаводчай практыцы з часоў Казіміра Ягайлавіча.

Пераважная частка гісторыкаў разумела пад паняццямі “пустовъщина”/”земля пустовская” сялянскі надзел, які ў выніку пэўных абставін (адсутнасці спадчыннікаў, неадпаведнасці памеру падаткаў магчымасцям працаўнікоў, вайсковых дзеянняў) застаўся без селяніна, што ім карыстаўся (Любавский, 1893: 393–400; Довнар-Запольский, 1905: 18, 25–26; Спірыдонаў, 2006: 476; Мяцельскі, 2010: 255). Некаторыя асацыявалі пустаўшчыну з землямі, якія ўвогуле не выкарыстоўваліся ў сельскагаспадарчым звароце (Блануца, 2010: 193). Найбольш падрабязна выказаліся на гэты конт Валерый Мянжынскі і Алег Дзярновіч, адзначыўшы, што пад разгляданай дэфініцыяй маглі разумецца: 1) пустое незасеянае поле; 2) неўрадлівая зямля; 3) недагледжаная, часова пакінутая зямля (Мянжынскі і Дзярновіч, 2004: 66).

Высновы, зробленыя на падставе непасрэднага аналізу крыніц, не толькі пацвярджаюць думкі даследчыкаў, але дазваляюць у пэўнай меры ўдакладніць іх.

Так, сапраўды вельмі часта “пустаўшчына” вызначалася паводле адсутнасці спадчыннікаў (Lietuvos Metrika, 1998. Kn.3: 48; Lietuvos Metrika, 1995. Kn. 8: 194–195) ці невыканання служб, неаплаты данін з іх (Lietuvos Metrika, 1998. Kn. 25: 125). Часта гэтыя дзве прычыны фігуравалі разам, утвараючы фармулёўкі тыпу: *“што жъ тые земли пусты а служобъ и дачокъ намъ з них на тотъ час нетъ, а отчычы тых земль розышли ся прочь”* (Lietuvos Metrika, 1997. Kn. 10: 65), *“што жь тыи землицы пусты давно лежать, а службы с них никоторое нет, бо деи наследка никакого нетъ”* (Lietuvos Metrika, 1995. Kn. 8: 193). У першым выпадку прычынамі пуставання маглі быць як высокі памер феадальнай рэнты, так і страта глебай урадлівасці. Апошняе нярэдка з’яўлялася наступствам ужывання трохполля без належнай колькасці ўгнаенняў (Rusiński, 1964: 12). У другім жа выпадку спадчыннік, відаць, адсутнічаў у выніку няпоўнай змены пакаленняў: такая з’ява тады

таксама была шырока вядома ва ўсёй Еўропе (Блок, 1957: 59; Wyczański, 2004: 352) і, мусіць, часта сустракалася і ў ВКЛ. Часта трапляюцца і звесткі аб апусташэнні зямель праз ваенныя дзеянні (Lietuvos Metrika, 2011. Kn. 37: 177, Lietuvos Metrika, 1997. Kn. 224: 384).

Але разам з гэтым можна знайсці звесткі аб заселеных людзьмі землях, якія фігуравалі ў дакументах як "пустыя", "пустаўшчыны" і ў той жа час абрабляліся (Lietuvos Metrika, 2012. Kn. 5: 49–50, Lietuvos Metrika, 1998. Kn. 25: 212, 247). Апусцелыя тэрыторыі па-ранейшаму працягвалі лічыцца "пустаўшчынамі" пэўны час нават пасля іх паўторнага засялення і загаспадарання.

Таму, як здаецца, адзіным універсальным, падставовым крытэрам, паводле якога ў канцылярскай тэрміналогіі XV–XVI стагоддзяў той ці іншы надзел зямлі ўважаўся "пустаўшчынай", альбо "зямлёй пустаўской", было непаступленне з яго феадальнай рэнты. Гэта падводзіць да думкі, што пад дадзенымі паняццямі ў некаторых выпадках маглі разумецца і тэрыторыі, якія раней ніколі не ўжываліся. Магчымыя пацвярджэнні гэтай гіпотэзы можна знайсці ў некаторых актах Метрыкі.

Так, Мітка Фёдаравіч на атрыманых ад вялікай княгіні Алены "землях пустовских" *"двор собе справил и пашню вчинилъ"* ( Lietuvos Metrika, 2012. Kn. 5: 381). Пад 1522 годам узгадваюцца *"тры земли пустовскихъ у Слонимскомъ повете не подъ пущою"* (Lietuvos Metrika, 1997: 195). Адсюль вынікае, што яны маглі быць і пад пушчай, г. зн. не выкарыстоўвацца ў сельскай гаспадарцы раней увогуле.

Такім чынам, пад паняццямі "пустовъщина" і "земля пустовская" ў канцылярскай тэрміналогіі ВКЛ канца XV – сярэдзіны XVI стагоддзяў маглі разумецца: 1) часова пакінутая ў выніку пэўных абставін (дэгенерацыі якасцяў глебы, неадпаведнасці памеру феадальнай рэнты магчымасцям сялянаў, ваенныя спусташэнні, смерць селяніна, што яе апрацоўваў) зямля; 2) зямельны надзел, заняты пасля апусташэння новымі сялянамі, якія яго апрацоўвалі, не плацячы феадальную рэнту землеўладальніку альбо землетрымальніку; 3) незагаспадараныя раней ці пакінутыя тэрыторыі, якія працяглы час не выкарыстоўваліся. Падставовым жа крытэрам вызначэння такіх зямель служыла непаступленне з іх рэнты на карысць феадала.

***Бібліяграфія***

1. Блануца, Андрій (2011). «Господарська політика королеви Бони у великому князівстві Литовському (за материалами 32 книги записів Літовської метрики)», *Україна в Центрально-Східній Європі*, №11: 192–206.

2. Блок, Марк (1957). *Характерные черты французской аграрной истории*. М.: Изд. ин. лит-ры.

3. Довнар-Запольский, Митрофан (1905). *Очерки по организации западнорусскаго крестьянства в XVI веке*. Киев: Университетская тип.

4. Любавский, Матвей (1892). *Областное деление и местное самоуправление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. Исторические очерки.* М.: Университетская тип.

5. Мянжынскі, Валеры і Дзярновіч, Алег (2004). Шляхта, іншыя землеўласнікі і землеўладальнікі ды іхныя зямельныя ўладанні ў Берасцейскім, Камянецкім і Кобрынскім паветах у другой палове XV – першай палове XVI ст. (паводле Кнігаў №№ 12–33 Метрыкі ВКЛ), *Metriciana. Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.* Т. III, Мінск: Athenaeum.

6. Мяцельскі, Андрэй (2010). *Мсціслаўскае княства і ваяводства ў XII–XVIII стст*. Мінск: Бел. навука.

7. Спірыдонаў, Міхаіл (2006). Пустаўшчына, Генадзь Пашкоў і інш. (рэд.) *Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя.* У 2 т. Т. 2: К-Я. Мінск: БелЭн.

8. Lietuvos Metrika (1998). Knyga Nr. 3 (1440−1498): Užrašymų knyga 3 Vilnius: Vilnius: Žara.

9. Lietuvos Metrika (2012). Knyga Nr. 5: (1427−1506); Užrašymų knyga 5. Vilnius:Lietuvos istorijos instituto leidykla.

10. Lietuvos Metrika (1995). Knyga Nr. 8 (1499−1514): Užrašymų knyga 8 Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų leidykla.

11. Lietuvos Metrika (1997). Knyga Nr. 10 (1440−1523): Užrašymų knyga 10 / Parengė E. Banionis ir A. Baliulis. Vilnius, Mokslo ir enciklopedijų leidybos institutas.

12. Lietuvos Metrika (1998). Knyga Nr. 25 (1387−1546): Užrašymų knyga 25. Vilnius, Mokslo ir enciklopedijų leidybos institutas.

13. Lietuvos metrika (2011). Knyga Nr. 25 (1552−1561): Užrašymų knyga 37 Vilnius: Lietuvos istorijos instituto leidykla.

14. Lietuvos Metrika (1997). Knyga Nr. 224 (1522−1530): 4−oji Teismų bylų knyga. Vilnius, Mokslo ir enciklopedijų leidybos institutas.

15. Rysiński, Władysław (1963). «„Pustki" – problem agrarny feudalnej Europy», *Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych,* T. XXIII: 9–47.

16. Wyczański, Andrzej (2000). "Powrót do dyskusii o łanach pustych", *Celem nauki jest człowiek. Studia z historii społecznej i gospodarczej, ofiarowane H.Madurowicz-Urbańskiej.* Kraków.